

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***

# НАША СЛОВА.pdf



**Чацвёрты год выдання** **№ 14 (170) 2 красавіка 2025 г.**


# Міжнародная выстаўка-кірмаш турыстычных паслуг "Адпачынак-2025"

З 27 па 29 сакавіка Лідскі гістарычна-мастацкі музей прыняў удзел ў Міжнароднай выстаўцы-кірмашы турыстычных паслуг "Адпачынак-2025" на Менск-Арэне.

Ад Дома Валянціна Таўлая з удзелам "Францішка Скарыны" прайшоў інтэрактыў па напісанні пяром з чарнілам, а таксама майстар-клас па вырабе вераб'я ў тэхніцы арыгамі, па матывах напісання першага верша "Верабейкі" Валянціна Таўлая ў Лідзе ў 1923 годзе і інш.













Разам з тым наведвальнікі мелі магчымасць акунуцца ў той час, калі Францішак Скарына пісаў гусіным пяром, выводзіў літары на аркушы, на васковых дошчачках і г.д. Такім чынам наведвальнікі запрашаліся ў старажытны горад Ліду на Дзень беларускага пісьменства - 2025.

***ТК "Культура Лідчыны".***

*Станіслаў Суднік*

# БЕЛАРУСКАЯ МЕТАЛІНГВІСТЫКА

### Гара. Горад. Агарод

Адкуль пайшло слова ***горад***. Безумоўна, трэба разумець, што гэтае слова не ўзнікла ў надта глыбокай старажытнасці. Тады гарадоў проста не было. Першы горад, які вядомы як горад індаеўрапейскай цывілізацыі ўзнік усяго 2300 гадоў да нашай эры і называўся Хатус, што абазначала проста: "хаты".

Дзесці тады ўзнікла і слова, якое абазначала тэрмін "горад". Але мне невядома, як яно гучала. А вось гадоў за 1,5- 1,0 тысячы да нашай эры гэты тэрмін ужо аказаўся запісаным. У беларускай гісторыі вучаць, што слова ***горад*** узнікла ад словаў ***гарадзіць, агароджа***. Маўляў, паселішча, якое абносілася агароджай і называлася горадам. І ў гэтым была б логіка, калі б не сведчанні сівой мінуўшчыны.



***Наваградак - класічны славянскі горад на гары***

На санскрыце, старажытным койнэ індаеўрапейскіх, у тым ліку і беларускай, моваў, азначэнню **"горад"** адпавядае слова ***нагара*** (*на гары*). Тэрмін **"гараджане"** гучыць як ***нагараджана*** і пішацца, нават, праз літару ***"дж"***.

Такім чынам, слова ***горад*** паходзіць ад месца свайго традыцыйнага размяшчэння - *на гары*. Слова ***агароджа*** ўзнікла таксама ад гэтай *гары* і абазначае в*акол гары*, так як і *абсяг, аздоба, атачэнне*, утвараецца з дапамогай прыстаўкі ***а-***. Агароджа абносілася вакол гары і вакол таго, што было на гары. Унутры **агароджы** знайходзіўся **агарод**, які страціўшы прыстаўку ператварыўся ў ***гарод, град*** ці ***горад***. Такім чынам, першаасновай гэтага гнязда словаў з'явілася слова ***гара.*** Словы ***гарадзіць гарадзішча, Гародня, Наваградак*** - усе адгэтуль.

### Грамада, грамадзянін, грамадства

Апалагеты антыбеларускасці, калі хочуць прынізіць нашу мову пачынаюць даказваць яе штучнасць, што большасць словаў - гэта скалечаныя расейскія словы, ну ў лепшым выпадку польскія, але толькі не самабытныя беларускія. Такія сцвярджэнні датычаць і словаў ***грамадзянін, грамадзянскі***. Маўляў гэта тыя ж ***гражданин, гражданский***, толькі папсаваныя. Сапраўды, словы ***гражданский*** і ***грамадзянскі*** па гучанні блізкія, але асновы іх зусім розныя. Расейскае ***гражданин*** - слова штучнае, утворанае ў 18 - м стагоддзі ад слова ***горожанин***. З беларускім словам ***грамадзянін*** справа выглядае зусім інакш. Яно мае тысячагадовыя карэнні. Ізноў мы заглядваем у Індыю 2-га тысячагоддзя да нашай эры. На старажытна - індыйскай мове санскрыце слова ***грама*** абазначае: **вёска, натоўп**. У гэтым значэнні слова ***грамада*** дайшло да нас праз тры тысячы гадоў. **Грамада, сялянская грамада, Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада -** гэта такая ж супольнасць людзей як і вёска, як і натоўп , ну, вядома, арганізаваная іначай. ***Грамада*** дала ***грамадства*** і ***грамадзяніна***, чалавека, які належыць да грамады. Слова ***грамада*** пранікла і ў расейскую мову, *громадный*, *огромный*, але , як бачна, моцна сказілася і па сэнсе, і па гучанні. Такім чынам ні пра якую штучнасць беларускіх словаў ці пра іх паходжанне ад расейскіх гаворкі быць не можа. У аснове яе - пракрыты старажытных арыйскіх плямёнаў, прашчураў сёняшніх беларусаў.

### Сад. Сядзіба. Сажань

Слова ***сад*** вельмі старажытнае, па ўжо не раз ужытай тэрміналогіі, даведыйскае. Ужо ў санскрыце гэтае слова абазначае не першапачатак сваёй сутнасці, а толькі наступства. У санскрыце слова ***сада*** абазначае *плод*, *садавіну*. З гісторыі індаеўрапейскай расы мы ведаем, што арыі займаліся земляробствам, а значыць і садаводствам задоўга да прыходу ў Індыю, таму нічога дзіўнага ў тым, што за 1,5 тысячы гадоў да нашай эры ***сада*** - гэта ўжо *плод*, няма. Безумоўна можна пайсці і ад плода да дрэва, але тут на баку першай версіі - гісторыя, згодна з якой у Малой Азіі, адкуль арыі хутчэй за ўсё рассяліліся ў Індыю было высокаразвітае паліўное зямляробства і садаводства, а вось з дзікімі пладамі там цяжэй. Але ў дадзеным выпадку гэтыя разважанні не носяць прынцыповага характару. Прынцыповым з'яўляецца тое, што **сад** сам не расце, яго трэба **садзіць** і карань дзеяслова ***садзіць*** ляжыць у аснове ўсяго гэтага гнязда словаў. Ад гэтага кораня бяруць пачатак усе назоўнікі, якія абазначаюць нейкія насаджэнні: ***прысады, пасадка, саджанцы***.





Ад гэтага кораня і ***сядзіба***, па азначэнні: комплекс жылых і гаспадарчых пабудоў разам з дваром, агародам і садам. Нельга адназначна сказаць, што вызначыла назву: ***сад*** ці тое, што гэты комплекс пабудоў **садзілі** на адпаведнае месца, але хутчэй за ўсё **сад**, бо існуе слова ***сяліба***, якая абазначае той жа комплекс пабудоў, але, магчыма, дзесці ў даўніне - комплекс без саду. Пазней ўсё гэта пераблыталася, і што ***сядзіба***, што ***сяліба*** пачалі абазначаць адно і тое ж. На сад ужо ніхто не звяртаў увагі. Ад дзеяслова ***садзіць*** пайшло і шмат іншых словаў: ад слова ***пасад, вялікакняскі пасад*** да сучаснага ***паседжання***. Акрамя князя на пасад садзілі маладую, а то і маладога. Маладую садзілі на дзяжу, пакрытую кажухом, або на куфар, ці падушкі, якія яна мела забраць з сабою. Усё, што брала маладая называлася ***пасаг***, што ізноў жа ідзе ад слова ***пасад, садзіць***. Ад слова ***садзіць*** ідзе і слова ***саджалка***. Напрыклад, ***бульбасаджалка***. Ідзе і слова ***сажалка***. Што тут найперш **саджалі**, ці прысады вакол, ці саджалі мачыць лён ды каноплі, ці "саджалі" малькоў рыбы.

Ад слова ***садзіць*** паходзіць і мера даўжыні ***сажань***. Тлумачэнні разумных кнігаў пра тое, што слова ***сажань*** паходзіць ад слова ***сягаць*** не вытрымлівае крытыкі. ***Сягаць, абсяг*** звязаны з мерай даўжыні ці прасторы, але непамерна большай, а сажань мае даволі канкрэтную даўжыню. У Вялікім Княстве гэта - 3 локці, або 194,8 см, у Расіі - 213,36 см, на Беларусі вядомы былі тры віды сажняў: скарбовы або касы; махавы або ручны; купецкі або дзевяціфутавы.

З купецкім усё зразумепа. Ён позняга паходжання і прывязаны да фута: ангельскага, ці яшчэ якога.Махавы ці ручны - прыблізная мера на велічыню максімальна расцягнутых у бакі рук, а вось касы, або скарбовы: асноўны сажань. З ім справы цікавей. Вось дзве вытрымкі са старых дакументаў: *"...такежъ жаловали намь, штожъ здавна мошчывали каждый человекъ передь своимъ дворомь пяти топоришчъ"*; *"... нижели я на тотъ часъ з дому своего не мог вывести... тесниц меншых сорок девет, каждая по два сажни и по два топоришча"*.Тут "тапарышча" - даўжыня ручкі сякеры, скарыстоўваецца, як мера даўжыні і скарыстоўваецца разам з мерай "сажань", як дробная ад "сажня". Тапарышча мера вельмі зручная для цеслі, раз-два і памераў. А ці не мог і сажань быць такой жа ручкай ад нейкай прылады працы, якая была насаджана на яго. Згадаўшы даўжыню сажня 1,94 (2,13) см і ўсе прылады працы ды зброю, якія скарыстоўваліся ў той час мы знайходзім, што пад згаданую даўжыню падпадаюць дзіда і каса. Ну, дзіда адпадае, бо яна не для мераў, а вось каса. Чым, скажам, размераць луг на дзялянкі. Вядома: кассём. Вось тут і згадаем **касы сажань**, як сажань касы, "палку", на якую насаджана каса. Пра слова ***каса*** гаворка была асобная, а вось калі трэба прымацаваць касу да кассе гавораць: "Асадзіць касу". Гавораць ***асадзіць*** і пра рыдлёўку, і пра сахор, і пра сякеру, малаток, долата. І тут корань ***сад***.

Ад гэтага кораня і словы ***сядло, падсядзёлак, седлавіна, сядак, сядзенне*** і шмат іншых. Але іх паходжанне відавочнае. Не выключана, што ў сувязі са словам ***сад*** трэба разгпядаць і слова суд. Далёка па гучанні, сэнсе, але згадаем, як гэтае слова пішацца па польску: sa,d. Гэта значыць, што калісці яно гучала як "сад" і магчыма паходзіла ад таго, што суддзі сядзелі ці асуджаннага саджалі, але, паколькі асуджанных тады саджалі рэдка, больш вешалі ды галавы адсякалі, то хутчэй трэба абапірацца на суддзяў. Тым больш, што ў Вялікім Княстве суддзі называліся лаўнікамі ад той самай лавы на якой яны сядзелі і судзілі. Магутнае адгалінаванне словаў з гэтага гнязда дае і слова ***сяліба***. Гэта: ***сяло, паселішча, селянін, аселіца*** і мноства іншых, але ўсе яны зводзяцца да словау ***селі, аселі***. А ***аселі*** абазначае: *пачалі сядзець*, што зноў выводзіць на слова ***садзіць***. Таму так лёгка і дапасоўваюцца адно да другога словы ***сядзіба*** і ***сяліба***.



***Сядзіба "Шчорсы"***



***Сядзіба Тадэвуша Касцюшкі ў Косаве***

Нельга сказаць, што ўсе гэтыя разважанні сапраўда ў апошняй інстанцыі, але гняздо словаў з коранем ***сад*** сабралася даволі шматлікае, разнастайнае і цікавае.





*Язэп Палубятка*

# САНЕТЫ

**29**

Каханне пачынаецца з дурноты,
З казання: "Як у раі будзем жыць!"
Хіхікання бязглуздага аж да ікоты,
Ды толькі раю ўсё ж таму не быць.

Час мілавання і гублянне цноты.
Даведаешся ўсяго смак.
Прыходзіць тое праз дурноту,
Ў каханні ж шчырым ўсё не так.

Сінь неба яснага патушыць хмара,
Надзеі радаснай пажухне далягляд.
Была калісьці светлай мара,
Ды нешта выйшла ў непапад.

Знай у каханні гэту важнасць:
Што першаснасць, а што прыязнасць.

**30**

Санеты мае, што радзюжкі тканыя,
Белы кужаль - аснова іх.
Можа дзесьці я ў словах стрыманы,
Ды толькі кажу за дваіх.

За матку-Радзіму, за маці,
Што навучылі край наш любіць.
Боль у душы не магу я стрымаці
З-за тых, хто свабодў мне хоча згубіць.

Устаньце, дзяды, узніміце Паходню!
У нашых жылах хай кроў закіпіць!
Не трэба нам бераг усходні-заходні,
Хай жа надзея вольнасці нашай бурліць.

У змаганні за родны край
Ты ніколі рук не апускай.

**31**

Кахаеш ты, ці толькі летуценнем
Спавіта сэрца палкае тваё,
Павінен тое ты адчуць паразуменнем,
Каб потым не пытаць: штось там было?

Бывае хмары сум не наганяюць,
І рады ты халоднаму дажджу,
А людзі ад таго руку ў гару ўздымаюць -
Той асалоды перадаць я не магу.

Ідзеш дарогаю разбітай,
Ці ногі мочыш у расе,
Заўжды каханнем будзь спавіты
І радуйся любой красе.

Нат у выгнанні не губляй ты веры,
Міне ліхое, і Радзіма прад табой адчыніць дзверы.

**32**

Бабіна лета лугі апляло павуціннем.
Зыркае сонца на пару дзён.
Апошняя радасць прыроды падасца дзіўнай,
А табе ў гэты час падасца, што ты маладзён.

Восень спраўляе апошні свой баль
І надае наваколлю натхненне.
Светлай, нязмрочнай бачыцца даль,
Толькі ўсё гэта - прыроды старэнне.

Усе мы з прыродаю заадно.
Завяла тваёй маладосці суквецце.
У час гэты нават у глыбокім віры бачна дно.
Усё яно так на гэтым свеце.

Хай твой зыход яскравым будзе,
І словам добрым цябе ўспомняць людзі.

**33**

Каханне ніколі не дае спакою.
Растанне душыць усіх наўпрост,
Заўжды яно - сяброўка неспакою,
Як гучна кажацца святочны тост.

Жыццё: то смутак, то трывога.
Застоллю вечнаму не быць.
Бывае і ад вечных балеў тлум, знямога,
Ды трэба гэта ўсё нам перажыць.




Лясная сцежка выведзе на тракт,
Толькі трэба йсці па ёй умела.
Бывае, апанент сказаў не так,
Тады ты ў спрэчку ўступай з ім смела.

Жыццё пражыць - не поле перайсці,
Дарогаю абранай табе ісці ды йсці.

**34**

Крыштальна чыстую заранку
Хмурынка засцілае, як заўжды.
О, колькі бед мне спазаранку!
І мора на душы нуды.

Блакіт тваіх вачэй праз цемень зырыць,
Пунсовасць губ піхае да спакусы,
І мару я сваю пяшчоту зрынуць
Ды цалаваць цябе да стомы без прымусу.

Наш век нічым засмучаны не будзе
У змрочны дзень, у цемры ночы,
Што марым - па жыцці здабудзем,
На ўсё з табою знойдзем моцы.

Давай жа разам пройдзем гэты шлях,
Каб толькі шал кахання не ачах.

**35**

Каханне ёсць паэзія жыцця,
Душы гармонія і подых навальніцы.
Пульсуе сэрца, у жылах кроў, а не вада,
Хай радасцю ўвесь свет узбагаціцца.

Сапраўднае каханне - Божы дар,
Пунсовасць ружаў усяго Сусвету!
І поўніцца душа ад розных мар,
А думка радасцю сагрэта.

Пяшчота слоў не ведае мяжы,
І шчырасцю ўсмешка да нябёс сягае!
Сапраўднае каханне беражы,
Сустрэчы радасць хай цябе сцінае.

Сказана столькі пра каханне шчырых слоў,
А я хачу казаць іх зноў і зноў.

**36**

У пушчы лёсу прасякай сабе дарогу,
Праз багну, твань знайдзі сабе праход.



Шлях цяжкі, ды не хныкай на знямогу,
Да сонца йдзі. Ідзі на ўсход.

Не паспрыяў табе сусед,
Адрокся сябра - такой бяды!
Толькі не плюй ты ім услед,
Вясной бывае, што няма вады.

Ты выбірай свой шлях, па ім ідзі
І на зямлі пакінь свае сляды.
Дарэмна злосці ў душы ты не будзі,
Людскога глупства не бяры да галавы.

Ну што сказаць напрыканцы:
Будуецца хата, кладуцца вянцы.

**37**

Як не імкніся - ад лёсу нельга схавацца,
Нават, калі ўсё пакрыта тканым
матчыным дываном.
За якую справу не стаў бы брацца,
Памкненні твае параслі дзірваном.

Мары твае да зорак сягаюць,
Хочацца нешта тварыць і тварыць.
Прайші маладосць, сталасць,
настала старасць, і зніч патухае,
Збылося ўсё, што мелася быць ці не быць.

Так вось жыццё і праходзіць -
Дарогі, вакзалы, якія забыў,
Надзеі час ў нябыт сыходзіць,
І цешыш душу тым, што жыў.

Усё праходзіць міма цябе,
Жаданне шчасця хай не міне.





*Тэадор Нарбут*

# Пра гербоўнік Каяловіча[1]

*Артыкул пададзены з каментарамі п. Жэготы з Малой Бераставіцы (прафесара Ігната Анацэвіча - Л.Л.)*

Ксёндз-езуіт Войцех Каяловіч[2] склаў гербоўнік знатных літоўскіх родаў і правінцый, якія належалі Літве. Інфармацыю для яго Каяловіч з руплівай стараннасцю чэрпаў з даступных яму крыніц[3]. Узбагачаны багатым веданнем роднай гісторыі, ён меў нястомную ахвоту да працы і непрадузята, лаканічна і без дробязей выявіў і напісаў сваю працу і з манаскай сціпласцю згадаў свой род у артыкуле "Віюк", пад артыкулам "Бейнард" сам сябе назваў: Collector huius libelli (лац. "Збіральнік гэтай кнігі" - *Л. Л.*). Маляваў гербы, сярод якіх ёсць і арыгінальныя літоўскія, падаў генеалагічныя табліцы панаваўшых князёў і знакамітых фамілій. Артыкулы размешчаны ў алфавітным парадку, як і ў Нясецкага, да адных прыкладзены намаляваныя гербы, да другіх, калі інфармацыі няма, няма і гербаў. Каяловіч меў пад рукой Папроцкага[4] і Акольскага, з апошнім аўтарам быў шмат у чым нязгодны, бо той часта недарэчна хваліць розум і пладавітасць фамілій, падае лухту пра нешматслоўнасць нашага ліцвіна, які як быццам ніколі не кажа непатрэбных слоў. Усё, што Каяловіч знайшоў у крыніцах, ён падае добрай лацінай.

На жаль, аўтар жыў у сумныя часы, і толькі таму выданне літоўскага гербоўніка не мела поспеху. Пра спробы выдання гербоўніка мы перакажам па прадстаўленай нам копіі гістарычных нататак, знойдзеных у рэштках архіву аднаго з маёнткаў, набытых пасля Пацаў[5]:

"Альберт Каяловіч, рэктар калегіюма (Kollegium Professow. - *Л. Л.*) у Вільні, у св. Казіміра, задумаў надрукаваць свой гербоўнік літоўскіх родаў. Яго твор не толькі мае значны памер, ён яшчэ аздоблены шматлікімі гравюрамі і таму мае не малы кошт. Друкарня езуітаў ледзь стала на ногі пасля апошняга ўпадку Вільні. Грашовыя запасы айцоў езуітаў былі вычарпаны, даходаў са спустошаных вайной маёнткаў ледзь хапала, каб пракарміць братоў закона. Таму, не маючы падтрымкі з боку закона, аўтар шукаў мецэнатаў. З гэтай мэтай прысвяціў адзін са сваіх твораў[6] віленскаму біскупу Тышкевічу, які быў выдадзены друкам у 1650 г. Але з выданнем гербоўніка ўзніклі вялікія цяжкасці, якія не так проста было абысці. Бо выданне ў Гданьску ці за мяжой не магчыма было рэалізаваць належным чынам - гэтыя друкарні знаходзіліся далёка ад аўтара. Наш кс. Мікалай[7] рупліва дапамагаў Каяловічу. Тады падчас адкрыцця Трыбунала, мы прадставілі сабраным панам намер шляхетнага езуіта, нашага земляка, руплівага ў праўдзе знаўцу літоўскай геральдыкі. Біскуп падтрымаў намер, і было вырашана выдзеліць фундуш, які павінен быў пакрыць кошт друку гербоўніка. Але пры ўмове, што ён будзе перакладзены на польскую мову. Сам аўтар палічыў гэтую заўвагу слушнай і пагадзіўся. Біскуп Тышкевіч ўзяў справу пад сваю апеку. Аўтар, аркуш за аркушам, каб паспявала друкарня, сам пачаў рабіць пераклад. Выразаць гербы пагадзіўся выдатны мастак з Кёнігсберга. Праца пачалася ў 1656 г., але ішла даволі павольна, і калі біскуп у верасні захварэў, спынілася на некалькіх надрукаваных аркушах[8]. Тышкевіч памёр у канцы таго ж года і разам з ім памерла надзея на далейшую паступовую працу. Акрамя таго, і наш ксёндз

1 Narbutt T. O herbarzu Kojalowicza (Artykul udzielony z dopiskami P. Zegoty z Malej Brzostowicy) // Tygodnik Petersburski. 1844. № 21. S. 136-138. *Пераклад Леаніда Лаўрэша*.

2 Альберт (Войцех) Каяловіч (Віюк-Каяловіч) (1609 - 1677) - пісьменнік, палеміст, гісторык. Доктар тэалогіі (1645 г.). У 1627 г. уступіў у ордэн езуітаў. У 1628-1632 г. вучыўся ў Віленскім і Нясвіжскім калегіюмах, у 1634-1638 - на тэалагічным факультэце ў Віленскай акадэміі, дзе ў 1645 г. атрымаў ступень доктара тэалогіі і да 1658 г. выкладаў тут схаластычную тэалогію. У 1654-1655 гг. рэктар акадэміі, у 1662-1666 гг. прэпазіт (настаяцель) дома манахаў у Вільні. - *Л. Л.*

3 Шкада, што не ўказаў гэтыя крыніцы. - Жэгота.

4 Маюцца на ўвазе гербоўнікі Барташа Папроцкага - *Л. Л.*

5 Notanda sui temporis, ab Anno 1648, in Chotce in Jezna. Нехта з Пацаў ці іх сакратароў, запісваў падзеі да 1664 г. Фрагмент падаецца даслоўна. - Нарбут.

6 Пэўна Miscellanea ("Markdown" - *Л. Л.*) - Нарбут.

7 Невядома, хто маецца на ўвазе. - Нарбут.

8 Гэтыя надрукаваныя аркушы, як бібліяграфічнай рэдкасцю, валодае вядомы знаўца рускай і польскай геральдыкі, сенатар К. М. Бараздзін. - Жэгота.





Мікалай атрымаў з Вільні новае прызначэнне. А літоўскія паны з халодным вокам, сціснуўшы далоні, спасы-лаліся на ахвяраванні, якія яны як быццам зрабілі раней на карысць памерлага біскупа, і адмовіліся ад падтрымкі свайго геральдыста. Аднак Каяловіч не губляў надзеі выдаць гербоўнік на лаціне і вырашыў зрабіць гэта ў Гданьску. Ён працаваў над падрыхтоўкай чыставой копіі рукапісу, пра што сведчыў сам. Невядома, ці ўзнікла непрыняцце гэтага ў суайчынí ³êàç[9], якія маглі прадузята паставіцца да яго працы, ці Каяловіч больш працаваў над выданнем Літоўскай гісторыі, другую частку якой з-за смерці свайго выдаўца ў Гданьску, ён не змог надрукаваць[10], ці прыступіў да абавязкаў рэктара Полацкага калегіюма, ці, што найбольш праўдападобна, гэтаму намеру перашкодзіў яго слабы зрок, перанапружаны начной працай.

Таму важная для нашага края, мазольная праца Каяловіча захавалася да нашых дзён толькі ў рукапісе[11] і заслугоўвае на тое, каб пра яе напісаць.

Пасля смерці Каяловіча два рукапісныя экземпляры гербоўніка засталіся ў езуітаў.

Адзін з іх езуіты падаравалі Кіеўскаму біскупу Андрэю Залускаму, гэты экземпляр знаходзіцца зараз у Пецярбургскай публічнай бібліятэцы. Ён напісаны неразборлівым почыркам з скарачэннямі і не з'яўляецца поўным.

Другі, перапісаны пасля скасавання закона езуітаў, дастаўся віленскаму кс.-біскупу Масальскаму, ён ёсць поўны і як быццам ужо выпраўлены для друку. З яго была знята копія, якая знаходзіцца ў віленскай бібліятэцы Сапегаў[12]. З гэтай копіі нехта зрабіў яшчэ адну копію, здаецца для Пулаўскай бібліятэкі. У 1744 г. невядомая рука зрабіла копію з экземпляра кс.-біскупа Масальскага, што бачна з надпісу пад тытулам гэтай копіі: "Diligenter ex ispsius autoris conscripto autographo descriptum Vilnae, Anno Domini 1744." (лац. "Старанна напісана аўтарам сваёй рукой у Вільні ў 1744 г." - *Л. Л.*) З гэтага экземпляра панам С. Д. (Сымонам Даўконтам - *Л. Л.*) знятая копія, якая была ласкава перададзеная для карыстанне мне.

Вось яе тытул: "A. R. P. Kojalowicz Soc. Jesu Theologi opus rarum et curiosum. De nobilitate Lituana et families hujus Magni Ducatus" (лац. "Рэдкая і цікавая праца А. Р. П. Каяловіча Тэолага закона езуітаў. Аб літоўскай шляхце і родах Вялікага Княства" - *Л. Л.*)

Пасля пераліку панаваўшых князёў і іхніх генеалагічных табліц, ёсць наступная прыпіска: "Divis Angelis Lituaniae custodibus et Sanctis ejusdem Patronis, Sacer. Nomenclator familiarum et Stemmatum Magni Ducatus Lituaniae et provinciarum ad cum pertinentum". ("Анёлам боскім апекунам Літвы і святым яе заступнікам. Спіс родаў і радаводаў Вялікага Княства Літоўскага і ваяводстваў, якія да яго належаць" - *Л.Л.*).

У імя: "Imie Jezus, Imie Maryja".

Ніжэй: "Collectus et in ordinem digestus, opera diturna, P. Alberti Wiuk Kojalowicz Soc. Jes. S. Theol. Doct. ejusdemque in Alma Unversitate Vilnensi ol?m ordinarii Professoris. Descriptus Anno. 1658. Ad majorem Dei O. M. Gloriam et B. V. Mariae immaculate conceptue honorem". ("Творы сабраныя і размешчаныя па парадку, P. Alberti Wiuk Kojalowicz Soc. Jes. S. Theol. Doct. таго ж Віленскага універсітэта, ардынарны прафесар. Напісана ў годзе. 1658. У гонар большай хвалы Божай і Беззаганнага Зачацця Панны Марыі" - Л. Л.)

Тэкст кнігі змешчаны на вялікай паштовай паперы, напісаны чыста і займае 105 аркушаў выразным, вялікім і разборлівым почыркам. Гербы дакладна намаляваны пяром без колераў. Ранейшы перапісчык паставіў на сваім тытуле папярэджанне: тое, што знаходзіцца ў тэксце паміж двума знакамі §§, у першаснай копіі дапісана іншай рукой. Такіх месцаў 12. Артыкулы: "Ляшчынскі", "Лушкевіч", "Мінкевіч", "Асіпоўскі" і "Зыберг" належаць самому аўтару і дапісаны ім пасля. Іншыя: "Бжастоўскі", "Даўкша", "Гейштар", "Сцыпіо", "Вайніловіч" і "Копець", дапісаны ў першай палове XVIII ст., самае позняе ў 1728 г. Прычым артыкул "Копець" цалкам польскамоўны. Зрэшты, усе яны невялікія. Артыкул "Яцына" ўвесь на польскай мове, але без §. Верагодна, калі яго пазней перадалі аўтару, артыкул быў дададзены да тэксту без перакладу. Можна выказаць меркаванне, што артыкулы пра гэтыя значныя роды не былі дададзены да тэксту з-за нейкага адмоўнага стаўлення да іх езуітаў? Відочна, што Каяловіч, працуючы штодзень, дадаваў артыкулы па меры таго, як да яго прыходзілі

[9] Магутны род С. (верагодна, Сапегаў. - *Л. Л.*) быў абражаны занядбаннем яго паходжання ад Гедыміна. - Жэгота.

[10] "Гісторыя Літвы", першая частка якой выдадзена ў Гданьску ў 1650, другая - у Антверпене ў 1669 на лацінскай мове; "Летапіс Радзівілаў", выйшаў у Вільні ў 1653 на лацінскай мове. - *Л. Л.*

[11] Унізе тытула рукапісу, які я маю, дапісана: "Quod ne in lucem prodieret in patriam linguam translatum, quamvis jam experte esset mandatum typis, impedierunt non nuli Lithuani Proceres". - аўтар.

[12] На пачатку майго асобніка маецца заўвага Яноцкага, Яноціна, vol. II p. 130, пра гэты твор. Потым паведамляецца пра лёс двух экземпляраў, пра які расказаў вышэй. Больш за тое, на другім асобніку, Каяловіч уласнаручна напісаў: "Incoepi scribere 1648 Vilnae; describere coepi 1658 Brestine, mense Martio, describere finivi Slonimi 1658 Sept. 10, ante prandium". - аўтар.





крыніцы. Таму Нясецкі, які так сцісла карыстаўся працай Каяловіча, прапусціў 600 родаў[13] і мала сказаў пры тыя, якія з'явіліся толькі ў экземпляры 1658 г. У канцы рукапісу маецца збор намаляваных гербаў, якія належаць невядомым родам.

Мой рукапіс заканчваецца дадаткам з 13 аркушаў. Гэта перапрацаваная кніга "Miscellanea rerum ad statum ecclesiasticum in Magno Lithuaniae Ducatu pertinentia. Vilnae Typis academicis. Ao Dom. 1650." [14] У асноўным рукапісе артыкулы прадстаўлены больш шырока, чым у дадатку, адны артыкулы дабаўлены, іншыя зняты і вельмі няшмат узята з ужо надрукаваных старонак. Спіс віленскіх біскупаў даведзены да Аляксандра Сапегі, які памёр у той самы год, што і аўтар, толькі крыху пазней, 21 снежня 1671 г. [15] Спіс жмудскіх біскупаў заканчваецца Мікалаем Пацам. У дадатку няма месцаў абазначаных знакамі §§. Гэта сведчыць аб тым, што Miscellanea дараблялася да апошніх дзён жыцця працавітага аўтара і была далучана да гербоўніка ў паўторнай аўтаграфічнай копіі.

Ці павінен заставацца толькі ў рукапісе такі выдатны, важны і амаль што незаменны твор для Літвы? Мы павінны імкнуцца выдаць яго друкам. Але варта паразважаць, друкаваць яго лацінай ці ў польскім перакладзе? Ці ў такім выглядзе, у якім ён ёсць сёння? Ці трэба выкінуць з яго тое, чым ужо скарыстаўся і што ўжо надрукаваў Нясецкі?[16] Ці выдаць толькі рэчы, прапушчаныя Нясецкім? Таму я звяртаюся па параду да аматараў гісторыі. Быў бы рады атрымаць ад іх ліст.

Тэадор Нарбут.
Пісаў 3 снежня1843 г.
у Шаўрах, Віленскай губерні,
Лідскі павет.

Рэдакцыя Тыгодніка выказвае шчырую ўдзячнасць выбітнаму гісторыку Літвы за тое, што ён абраў наша выданне пасярэднікам для збору меркаванняў асвечанай аўдыторыі.

---

[13] Нясецкі мала дбаў пра некаталіцкія роды. - Жэгота.

[14] У кнізе расказваецца пра падзеі хрысціянскай гісторыі Літвы. - *Л. Л.*

[15] Кс. Войцех Каяловіч памёр 6 кастрычніка 1677 г., жыў 68 гадоў. - Жэгота.

[16] Друк на польскай і лацінскай мовах будзе дорага каштаваць і абцяжарыць справу. Выданне на польскай мове ў значнай ступені было б паўторам Нясецкага. Выданне на лаціне было б карысным для вучонай Еўропы, якая не ведае літоўскай геральдыкі. - Жэгота з Малой Бераставіцы.

# ВЕЛІКОДНЫ ПАДАРУНАК

28 сакавіка ў выставачнай зале Гарадзенскага абласнога метадычнага цэнтра народнай творчасці прайшло ўрачыстае адкрыццё выстаўкі майстроў народных промыслаў

Марына Савіцкая, метадыст па народных мастацкіх рамёствах аддзела метадычнай і культурна-масавай работы ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці" правяла майстар-клас у традыцыйнай тэхніцы роспісу велікодных яек "ПІСАНКА".





Яйкі-пісанкі, на думку нашых продкаў, неслі вельмі сур'ёзную інфармацыю, убіралі ў сябе адмоўную энергію.Таму дарыліся яны толькі сваякам і блізкім людзям з пажаданнямі здароўя, дастатку і багацця.

***ТК "Культура Лідчыны".***

Станіслаў Мараўскі

# Некалькі гадоў маёй маладосці ў Вільні[1] (1818-1825)

*(Працяг. Пачатак упапярэдніх нумарах.)*

Даўгарукі як мог падтрымліваў гэта і такім чынам заахвочваў знішчэнне капіталаў шляхты, і гэтак давёў да галечы вёску, але, што яшчэ горш, здэмаралізаваў Літву! Хай пан Бог даруе яму, але я сумняваюся ў гэтым. А ён ужо паўстаў перад судом Божым.

Не было ў нас багатага яўрэя, багатага чыноўніка ці, тым больш, багатага абшарніка, якому ён не запусціў бы пазуры ў кішэню і не выхапіў бы адтуль грошы. Я чуў, што Тышкевіч падараваў яму 6 000 дукатаў і ведаў, што ніколі іх не верне. Праз пазыкі і рознага роду пагрозы, забраў у віленскага кагала 30 000 рублёў.

Маючы пасады ў месцах, дзе ўсё дазволена, ён і ў Харкаве, дзе потым таксама стаў генерал-губернатарам, забраў 90 000 срэбных рублёў у магістратуры агульнай апекі, настрашыўшы сваёй помстай і ссылкай у Сібір. Яму далі скарбовыя грошы, а ён памёр. І гэтыя няшчасныя людзі былі пакараныя па законе і загубленыя разам з жонкамі і дзецьмі.

Калі гэты забойца стольскіх няшчасных сем'яў, праз асаблівую міласць Бога, быў канчаткова скінуты з "каралеўскай" пасады ў Вільні і пераведзены на падобную па назве, але не такую выгадную пасаду ў Харкаў і на яго месца прызначаны чалавек разумны, сціплы і пачцівы - генерал Міркові́ч, на Даўгарукага напалі крэдыторы, бо не мелі ўжо страху з ім цырымоніцца. Тады ён ажаніўся са сваёй каханкай Забелавай з Ваўжэцкіх і атрымаў за яе некалькі дзясяткаў тысяч срэбных рублёў ад яе старога і скупога бацькі. Гэтымі грашыма закрыў самыя важныя дзюры, чым замыліў вочы іншым і змог больш-менш спакойна ўцячы з Вільні. Аднак і потым заўсёды меў вялікія даўгі. Пасля ягонага ад'езду, назаўтра, віленскі віцэ-губернатар сустрэўся на вуліцы з саркастычным і трапным жмудзінам, баронам Краўзэ:

- Что новенького, - спытаў віца-губернатар, - Князь Долгорукий уже выехал?

- Не совсем, однако ж, - адказаў Краўзэ, - Руки, правда уехали, но долги всё-таки здесь остались.

12. Пасля пятнаццаці гадоў блуканняў па свеце, у 1838 г., я вяртаўся у сваю загроду. Прывяла мяне туды сумная і балючая смерць майго бацькі, самага сумленнага і пачэснага чалавека ў свеце, які, каб не быў сапраўдным старапольскім ліцвінам, дык, напэўна, нарадзіўся б сапраўдным спартанцам. Чалавек, які, што з'яўляецца рэдкасцю ў наш час, здолеў выціснуць увесь мёд XVIII стагоддзя у свае шляхетныя вусны і пры гэтым нават не дакрануўся да яго смяротнай атруты. Чалавек, які ўзняўся над брудным узроўнем ванітаў, якія ўсе жыццё атачалі яго з усіх бакоў. […]

**Раздзел 5.**

***Род Нагурскіх. Ян Нагускі, яго стасункі з бацькам аўтара, намер ажаніцца, самазабойства, смерць. Тышкевічы. Анекдот пра скарб графа Тышкевіча. Старадаўнія шляхецкія абеды з супоў. Каэтан Нагурскі. Гісторыя са спадкамі ад Нагурскага і Сільвястровіча. Нагурскі і Высагерд у Венецыі і раман з Марыяй Неры. Раман бацькі аўтара з Неры. Шлюб Нагурскага з Неры ў Вільні. Раман Нагурскай з Людвікам Пацам. Хвароба і смерць Нагурскага. Добрыя справы, зробленыя бацькам аўтара для Нагурскай, і канец іх адносін. Раман Нагурскай з Агінскім і Бенігсенам. Шлюб з Агінскім. Характарыстыка сенатаравай Агінскай. Уратаванне ёй маёнтка мужа. Тост жонкі Бенігсена за Левіса.***

Я ўжо вышэй згадваў і абяцаў расказаць яшчэ пра тое, што памяталі ў маёй сям'і пра сенатараву княгіню Агінскую, тут я буду згадаць яе, як вельмі рэдкі і павучальны тып, здольны шмат чаму навучыць нас у штодзённым жыцці. Яе справамі займаўся Новамейскі. Каб мяне лепш зразумелі, трэба вярнуцца крыху назад.

Яшчэ ў часы Станіслава Аўгуста на Літве яскрава ззяў згасшы сёння род Нагурскіх[83]. Ззяў ён з-за фамільных сувязяў і значнага багацця. У той час вядомымі асобамі

[1] Morawski Stanislaw. Kilka lat mlodosci mojej w Wilnie (1818-1825). Warszawa, 1924. *Пераклад Леаніда Лаўрэша.*

[83] Нагурскія герба Побуг, жылі ў Жмудзі. У канцы XVIII ст. вядомы падкаморы жмудскі, бацька Якуб і яго сын Каэтан, шавельскі харунжы, Ян, пасол на 4-х гадовы сойм - сыны Пузынянкі. У апошнія гады існавання Рэчы Паспалітай адрозніваліся сваім патрыятычнай дзейнасцю. У 1792 г. бацька ахвяраваў 100 тысяч злотых на фармаванне стоконнай харугвы, ротмістрам якой стаў яго сын Ян, які са свайго боку выставіў яшчэ 100 добраахвотнікаў. У 1794 г. Нагурскія за ўласны кошт яшчэ выставілі полк кавалерыі ў 500 шабель (1-шы полк княства Жмудскага) пад камандай Яна, які стаў генерал-маёрам Жмудскага княства.

У 1782 г. Каэтан выдаў у Вільні "Lenglet du Fresnoy. Geografja krotko na lekcje podzielona dla nauki mlodzi przez … podkomorzego ksitstwa Zmudzkiego na jezyk ojczysty przelozona" (317 с.). У 1794 г. быў членам Найвышэйшай рады ВКЛ. Пасля паразы паўстання эміграваў у Венецыю. Памёр у 1802 г.

ў сям'і быў старая скнара, бацька Нагурскі, багаты чалавек, сквапны і хціўы, і два яго сыны - Каэтан і Ян, якія з-за шматлікай спадчыны, якую яны атрымалі, былі багатымі як і іх бацька. Чэрствы стары зайздросціў ім, псаваў жыццё і амаль што адкрыта жадаў смерці сыноў, каб стаць іхнім пераемнікам. Гэтак было ў хатніх справах, а ў грамадскім жыцці ўсе трое былі добрымі грамадзянамі, якія ўсімі магчымымі спосабамі імкнуліся падтрымаць жыццё сваёй бацькаўшчыны, якая ў той час ужо памірала. З сыноў, Каэтан - сквапны і занудны буркун, меў слабое здароўе з тварам падобным на сушаную апельсінавую шкурку і яго не надта любілі. Яна любілі ўсе, бо ён быў прыстойны, здаровы, малады, чалавечны, адкрыты, шляхетны, меў цудоўнае сэрца і розум. Мой бацька сябраваў з ім як Арэст з Піладам[84]. Іх сяброўства яшчэ больш умацавала дапамога майго бацькі на соймах, дзе ён, маючы добрае пяро, пісаў выступы Яну, які не меў падобнага таленту. Пра іх сяброўства ведала ўся Літва. Старому Нагурскаму і ягонаму сыну Каэтану вельмі не спадабалася, калі яны даведаліся, што Ян Нагурскі падараваў майму бацьку на іменіны 100 хат у Вількамірскім ці ў нейкім іншым жмудскім павеце. Гэтае віншаванне было зроблена так далікатна, што бацька не мог адмовіцца ад падарунка і прыняў яго. Але горды і чулы юнак ў душы пачаў баяцца, што падарунак дасць Яну права на нейкае вяршэнства ў іх адносінах. Гэтая думка замацавалася ў яго галаве. Таму ён не спяшаўся ўваходзіць у правы валодання гэтым маёнткам. Між тым, аднойчы, нібы наўмысна і як на ліха, тата горача паспрачаўся са сваім сябрам і ўявіў сабе, што той хоча ўразіць яго сваім падарункам. Таму не ўнёс дакумент у акты і на вачах сябра парваў паперу на кавалкі. Нагурскі, як я ўжо казаў, быў далікатным чалавекам. Яму было крыўдна, але ён зразумеў прычыну, і іх ранейшае сяброўства захавалася, бадай што, з падвоенай пашанай. Але копію дакумента не аднавіў. І на гэтым скончылася знакамітая гісторыя з сотняй хат, пра якую згадвалі ўвесь час, колькі я сябе памятаю.

Неўзабаве Ян Нагурскі закахаўся ў Карпёўну і зрабіў ёй прапанову[85]. З радасцю атрымаў абяцанне яе рукі. Але з-за перашкод, якія рабіліся з абодвух бакоў, падрыхтоўка да вяселля некалькі разоў адкладвалася. І калі, нарэшце, ён паехаў да Карпа на вяселле, па дарозе адкрыў у сябе сорамную хваробу, якую падчапіў ці ў Вільні ці ў Варшаве, і якой, пры яго памяркоўным жыцці і мерах засцярогі, ніяк не мог чакаць. Поўны далікатнасці, пакрыўджаны і закаханы, ён ведаў, што лячэнне зацягнецца на некалькі тыдняў і таму чарговы раз трэба будзе адкласці вяселле, бо немагчыма было ажаніцца і потым на нейкі час адмовіцца ад сужэнскіх абавязкаў. Бядак набраў думак у галаву, не было каму яго суцешыць і не было з кім параіцца - звар'яцеў, страціў розум і стрэліў сабе ў рот з пісталета! Аднак нейкім цудам куля толькі слізганула па твары, і лекары разам з маім бацькам, які быў недалёка, адразу прыбеглі да яго. Здавалася, швы хірургаў і сяброўства майго бацькі супакоілі яго і цела, і думкі. Дактары абяцалі жыццё, а накіраваная маім бацькам эстафета прывезла ад яго нарачонай словы ўцехі, ліст гэты і сёння захоўваецца ў мяне.

Нагурскі выглядаў вясёлым і радасным, бо застаўся жывым, але патаемна падрыхтаваў і падпісаў вельмі кароткі тастамант. Здавалася, ён верыў ва ўсё, што ўкладвала ў яго сэрца і розум дружба, радасць ад свайго вяртання да жыцця маляваў рознымі словамі ўдзячнасці і здавалася так натуральна з усімі пагаджаўся, што ўсіх увёў у зман. І калі на сёмы дзень пасля замаху на сваё жыццё ўжо здавалася, што небяспека прайшла, і мой знясілены дзяжурствам бацька на некалькі гадзін пакінуў свайго хворага сябра, каб адпачыць. Нагурскі толькі таго і чакаў і толькі ўдаваў, што спіць і такім чынам супакоіў сваю ахову. Напісаў алоўкам некалькі слоў майму бацьку: "Хто аднойчы зрабіў на сябе замах, з-за гонару не можа больш жыць". Сваімі рукамі сарваў з сябе швы і пластыры, раздзёр раны і праз некалькі гадзін увесь у крыві памёр. Гэта быў адзін з самых высакародных, самых прыстойных, самых перспектыўных людзей нашай бацькаўшчыны, якая ўжо памірала. Мой бацька і праз 50 гадоў, да сваіх апошніх дзён, не мог казаць пра яго без слёз і штодзень, з нейкай нагоды згадваў яго. Захоўваў розныя дробязі свайго сябра і пры канцы жыцця перадаў іх мне.

Яна Карпёўна, атрымаўшы такі ўдар у самае сэрца, на пэўны час аддалася слязам і роспачы, хацела зачыніцца ў кляштары, але падпарадкавалася загаду свайго строгага бацькі і з параненай душой аддала сваю руку Тышкевічу, старасце вялятыцкаму.

Род Тышкевічаў, які здаўна вылучаўся фамільнымі і грамадзянскімі цнотамі, за паўстагоддзя значна павялічыў сваё багацце і староста вялятыцкі Міхал стаў самым багатым панам у Літве. Пакінуў трох сыноў і дачку, якая пабралася з Леанам Сапегам, і ўсе яны ёсць першымі багачамі нашага края. Ніводзін з Тышкевічаў сябе нічым не запляміў. Ніколі не зрабіў крыўды свайму бліжняму. А калі, маючы грошы, чакаў, каб танна купіць дарагі маёнтак, дык хто ж хоча купіць дорага? Гэта слаўная лінія Тышкевічаў заўсёды, нават і сёння, мае шчасце на спадчыну, што нікому не шкодзіць і магчыма, ёсць найменшым з грахоў, але дае зайздроснікам тэмы для размоў.

Няхай наступная гісторыя ў гомеапатычных памерах раскажа вам аб тым, як здабываліся вялікія ба-

[84] Назва дзвюх скал у Чорным моры, названых імёнамі персанажаў старажытнагрэцкіх міфаў. - *Л. Л.*

[85] Яна Карпёўна, нарадзілася ў 1778 г., дачка Бенядыкта, выйшла замуж за ротмістра народнай кавалерыі Міхала Тышкевіча з Валожына, удзельніка падзей 1812 г. Ад іх пайшла біржанская лінія Тышкевічаў. Бацькам Міхала быў Юзаф, староста вялятыцкі (1724-1815), сын Міхала, графа на Лагойску і Бердычаве. Тышкевічава з Карпаў была вядома сваёй сквапнасцю.




гацці і чаму гэта немагчыма ў нашы часы.

Неяк мой бацька ў самую адлігу паехаў да Яна Нагурскага на лёгкай брычцы. Недзе ў Жмудзі на жудаснай дарозе зламалася вось. З падстаўленай жэрдкай дацягнуўся да першай карчмы.

- Каваля!

- Няма, пане, каваля, і на тры мілі навокал няма яго, - адказвае карчмар.

- А няхай у цябе снег згарыць! Што рабіць? Немагчыма ехаць яшчэ 3 мілі!

Літасцівы карчмар, чухаючы патыліцу, адказаў:

- Есць каваль у двары, але ён не мае права займацца іншай працай, акрамя як у маёнтку. Можа б пан зараз пайшоў у двор, бо якраз тут ужо некалькі тыдняў бавіцца сам дзедзіч, дык вам, напэўна, не адмовілі б у дапамозе.

- Чый гэта маёнтак?

- Графа Тышкевіча (бацькі ці дзеда, старастаў вялятыцкіх).

Што рабіць? Бацька пайшоў па гразі. Прайшоў праз браму, і ні сабака не забрахаў, і нікога не сустрэў. Ніводнай жывой душы! Тады падышоў да вялікага панскага драўлянага дома. Агромністыя сені, і зноў нікога няма! Пайшоў налева, да дубовых дзвярэй і адчыніў іх.

У вялікім пакоі, абстаўленым драўлянымі зэдлікамі і чыстымі дубовымі сталамі, на лаве, прыстаўленай да аднаго са сталоў, сядзеў сівы, як галубок, прыгожа прычэсаны і паголены маленькі дзядок у кашулі, суконных портках на раменьчыку са спражкай і ў чаравіках са скуры казла, ён плёў сеткі. Убачыўшы госця, дзядок устаў і ціхім голасам спытаў, хто ён і чаго хоча? Бацька адказаў, што ён хацеў бы мець прыемнасць бачыць графа. Дзядок яшчэ больш ціхім голасам паказаў на дзверы: "Граф там, і калі б вы былі так ласкавы сесці тут і пачакаць, я б схадзіў, пабудзіў яго і паведаміў аб вашым прыбыцці".

Праз 10 хвілін выйшаў сам граф. Як здзівіўся мой бацька, калі пазнаў у ім таго ж самага старога, толькі апранутага ў жупан, кунтуш і боты! Стары з цікавасцю выслухаў госця, загадаў неадкладна прыцягнуць у сядзібу брычку і пажадаў адрамантаваць яе за ўласныя сродкі. А паколькі было ўжо позна, пакінуў бацьку на ноч.

Да самай цемры бавіліся размовамі. Стары быў зачараваны сваім госцем і задаволены ім, як самім сабой. Нарэшце падалі вячэру. На першае - бурачкі з вяндлінай, на другое - крупнік з вэнджанай паўгуськай, на трэцяе - аўсяная каша з селядцом. Стары з зайздросным апетытам з'еў усё і падбадзёрваў госця. Потым яны сардэчна развіталіся, і бацька, як толькі развіднела, працягнуў свой шлях. Тры супы, тры супы адзін за другім! Гэта жах! І якія супы! Адкідваю скупасць, бо відавочна гэта была старалітоўская мода! Бо нават і я яшчэ памятаю такі самы банкет.

З-за брыдкіх і агідных корчмаў, нашы бацькі па ўсім краі і па ўсіх дарогах мелі знаёмых альбо сяброў, да якіх заўсёды заязджалі на начлег ці адпачыць. Мой бацька рабіў так усё жыццё, пакуль не перажыў усіх сваіх сяброў. Аднаго разу, калі для лячэння жонкі ён гасцяваў у Гуфеланда[86] ў Берліне, палкоўнік войскаў ВКЛ Бернард Пянчкоўскі, наш прыяцель і сусед, які, як і ўсе, трымаўся такой жа сістэмы, збіраўся на імяніны нашых агульных сяброў ў Сянно, што на Наваградчыне, і ўзяў з сабой мяне, 13-ці гадовага ў той час хлопца. І ён гэтак жа сама ехаў ад хаты да хаты. Мы ехалі 30 міль бадай што 10 дзён! Падчас гэтага падарожжа ён неяк заехаў адпачыць да вельмі паважаных і ўжо бялюткіх, як снег, мужа і жонкі. Імя іх не памятаю. Сумленныя і заможныя гаспадары ад душы радаваліся, гэта было бачна па іх анёльскіх тварах. Крахталі, ахвотна мітусіліся, каб нас задаволіць і падалі нам акурат 4 супы! Халаднік, курыны булён, боршч з вяндлінай і крупнічак з бычыным хвастом, як раней казалі "з каралеўскім носам", бо ў Станіслава Аўгуста быў крывы, арліны нос! Сумленныя старыя! Сёння нам смешнае гэтае меню. Але раней людзі былі ім задаволеныя, сытыя і, напэўна, больш шчаслівыя, чым мы! Нашы продкі значна больш часу прысвячалі сваёй душы, чым раскошы сваіх кішак. Памятаючы гэта, раскажу яшчэ адну гісторыю пра таго самога старога Тышкевіча, які гэтак добра прыняў майго бацьку.

У маёнтку, дзе ён стала пражываў, быў трохпавярховы мураваны лямус падобны на замак. На трэцім паверсе меліся жалезныя дзверы з некалькімі ўнутранымі і навяснымі замкамі. Увесь паверх быў адной вялікай залай, выкладзенай вытанчанай галандскай цэглай. Тут стары багач трымаў сваю гатоўку - грошы былі ссыпаны ў кучу як зерне. У адным куце ляжалі медзякі, у другім бітыя талеры. Пасярэдзіне, таксама кучай, ляжалі галандскія дукаты. Стары часта патаемна хадзіў сюды і бавіўся, тым, што, як дзеці пясок, сыпаў золата праз пальцы. На гэтым паверсе меліся два круглыя, высокія акны, але яны былі цеснымі і вузкімі - праз іх ніхто не мог бы трапіць унутр. Аднойчы стары заўважыў, што яго золата як быццам нехта парушыў. Але сам сабе не паверыў. Тады ён пазначыў сваё золата як эканом пазначае збожжа. І зноў нехта парушыў! Ой, кепска! Нікому не сказаў і пачаў пільнаваць. Вядома, што лепшая пара для зладзеяў - поўдзень. У гэты час дваровая прыслуга сядае разам за стол пад гукі барабана ці звона, і хата пусцее. Тады бяда садам і фруктам, бяда агуркам і гарбузам! Злодзеі вылазяць з кожнага кута, бо упэўненыя, што іх ніхто не заўважыць. Стары, вядома, ведаў пра гэта і аднойчы апоўдні пракраўся ў свой лямус. Лямус межаваў з садам. Каля яго стаяла вялікае дрэва. Гаспадар сядзеў тут ужо з чвэрць гадзіны, калі пачуў шоргат у акне, які прыцягнуў яго ўвагу. Бачыць, на крывым і доўгім кіі праз акно нехта прасунуў моцна абмазаны дзёгцем лапаць. Гэты лапаць некалькі разоў дакрануўся да кучы дукатаў. Золата прыліпла да дзёгцю. Знізу кій моцна патрэслі і дрэнна прылепленыя манеты пасыпаліся ўніз. Тады паволі і асцярожна кій і лапаць высунуліся назад. Стары цярпліва сачыў за ўсім гэтым і адразу ўскараскаўся да акна каб ўбачыць, як ягоны

[86] Крыстаф Вільгельм Гуфеланд (1762-1836) адзін з тагачасных самых вядомых нямецкіх медыкаў.





селянін, дваровы пастух, злазіць з дрэва па садовай драбіне, абірае з лапця дукаты і зносіць іх у далоні. Так граф даведаўся, хто здраднік, але трэба было яшчэ даведацца, дзе ён хавае грошы. Пастух, прайшоў з дзесятак-другі крокаў, агледзеўся, залез пад куст парэчак і закапаў тут скрадзенае за дзень. Потым стары знайшоў тут каля тысячы скрадзеных такім чынам дукатаў.

Але вернемся да Нагурскіх. Пасля смерці Яна, яго бацька з братам сабраліся на пахаванне. Адкрылі тастамант. Нябожчык, каб не пакрыўдзіць свайго бацьку, зрабіў яго разам з баратам Каэтанам спадкаемцам свайго фундушу. Зараз жа пасварыліся паміж сабой. Але, што яшчэ горш, у тастаманце былі прадугледжаны 7000 дукатаў майму бацьку, пра што ён не ведаў. Стары Нагурскі хціва шукаў, як пазбавіцца гэтага запісу. Сын Каэтан, чалавек больш сумленны, але таксама хціўы і сквапны, вынайшаў спосаб. Прапанаваў тату толькі палову. Бацька адпісаў абодвум, што сумуе з-за смерці свайго адзінага ў жыцці сябра, не мае часу думаць пра фінансавыя інтарэсы і з усім пагаджаецца, нават калі не дастане ні гроша. Яму адразу залічылі 4000 дукатаў, але ён вярнуў усе грошы і так закрыў гэты сумны рахунак.

Тут трэба прызнаць, што мой бацька "нарадзіўся ў кашульцы". Вялікія і малыя грошы сыпаліся на яго без аніякага старання, нават, калі ён сам гэтага не чакаў. Адзін з самых смешных запісаў на яго імя меўся ў тастаманце Сільвястровіча, старога, заможнага і бяздзетнага гараджаніна-юрыста, перакананага патрыёта і чалавека свайго часу - вельмі дасціпнага, грубага але і сур'ёзнага. У сваім тастаманце Сільвястовіч пісаў: "Майму прыяцелю, пану Апалінарыю Мараўскаму, запісваю 200 дукатаў за тое, што ён носіць вельмі прыгожую старалітоўскую вопратку. А пану Станіславу Ажахоўскаму запісваю 100 дукатаў за тое, як ён прыгожа, "на бок", носіць шапку".

У дзяцінстве мой бацька быў прымушаны маёй 15-ці гадовай маці, выхаванай ў Варшаве, апранацца пафранцузску, гэта яна паставіла галоўнай умовай шлюбу. Потым бацька змяніў свой строй. Праз год ці трохі пазней Сільвяровіч памёр. Тады зачыталі яго тастамант, змест якога раней ніхто не ведаў і знайшлі запіс пра майго бацьку. Але ў дадатку да тастаманта прачыталі наступныя словы: "Пану Мараўскаму, які ўжо пераапрануўся пафранцузску, здымаю вышэйзгаданы запіс, бо з любой кропкі гледжання ён лепш выглядаў у кунтушы". Тады ўсе смяяліся з дзівацтва старога, але сёння, магчыма, шмат хто падумае, што ён разумеў усё лепш за іншых.

Хаця мой бацька зусім не любіў Каэтана Нагурскага, даўняе сяброўства з яго братам было прычынай таго, што яны мелі добрыя стасункі. Каэтан пасля смерці свайго бацькі стаў адным з найбагацейшых паноў Літвы. Але хутка з'явіліся Касцюшка і Ясінскі. Нагурскі далучыўся да паўстання і пасля бітвы пад Мацяёвіцамі уцёк у Венецыю. Там ён сустрэўся з таксама збеглым Высагердам, і разам яны спыніліся ў адной беднай карчме. Карчмар, нейкі Неры, быў адначасова і вясёлым італьянцам-гандальерам. Аднекуль ён даведаўся, што ў яго спыніліся знакамітыя эмігранты і хваліўся імі, а таксама спяваў і граў бедакам. Яго старэйшай дачка, дзяўчына дзіўнай прыгажосці, прыслугоўвала і таксама спявала ім баркаролы. Абодва эмігранты закахаліся ў яе. Больш спрытны і маладзейшы Высагерд, убачыў у сябры суперніка, выкраў маладую Марысю і ўцёк з ёй у Фларэнцыю. Нагурскі неадкладна кінуўся ў пагоню, выкраў яе ў Высагерда і паабяцаў ажаніцца. Па дарозе ён даведаўся, што ўжо можа смела вяртацца дахаты, і паехаў з дзяўчынай у Варшаву. Толькі там, калі трошкі астыў першы запал, убачыў, што ягоная красуня не мае ні адукацыі, ні манер, ледзь чытае і піша і таму не можа быць не толькі жонкай, але нават і наложніцай, бо ў Літве будзе выклікаць толькі жарты і кпіны. Яшчэ не маючы магчымасці назаўсёды з ёй расстацца, ён зняў для яе пансіён, наняў некалькі гувернантак і, добра заплаціўшы за самую строгую адасобленасць і таемнасць знаходжання тут дзяўчыны, паехаў у Вільню парадкаваць свае справы. У Вільні ён знайшоў Высагерда і яны добра разам пасмяяліся са сваіх італьянскіх любоўных прыгод.

Пасля зняцця секвестру з маёнткаў і вяртання Каэтана, прайшло каля 8 месяцаў, калі справы вымусілі майго бацьку паехаць у Варшаву, куды ў той час цяжка было атрымаць пашпарт. Наведвальнікаў у Варшаве было вельмі мала. Нагурскі даведаўся пра гэта падарожжа і напярэдадні ад'езду прыйшоў, каб нібы развітацца з маім бацькам. Але потым, убачыўшы, што больш нікога няма, замкнуў усе дзверы і паверыўшы слову майго бацькі пра захаванне таямніцы, прызнаўся яму пра венецыянку Неры, прасіў перадаць ліст яе апякунцы, бываць у яе і выэкзаменаваць ступень прагрэсу, які гэта яшчэ зусім нязграбная і неахайная дзяўчына зрабіла ў навуках і мове, а таксама перадаць ёй на выдаткі 600 дукатаў. Акрамя таго, ён прасіў не пісаць яму ніякіх лістоў, якія могуць канфіскаваць, а ўсё расказаць асабіста пасля вяртання. Бацька абяцаў. Паехаў. Пазнаёміўся з паннай. Чакаў убачыць якую-небудзь субрэтку. Якое ж было яго здзіўленне, калі ён убачыў даму дзіўнай прыгажосці з бліскучымі здольнасцямі. Яна ўжо магла стаць дасканалым гонарам салонаў, ужо добра размаўляла па-французску і па-італьянску без венецыянскага акцэнту, хутка пісала без вялікіх арфаграфічных памылак - словам, была ўжо выдатна выхаванай паннай, ад якой ні ў якім разе не пахла карчмой! Толькі ў музыцы яна не змагла прасунуцца наперад, што вельмі не спадабалася майму бацьку, які сам захапляўся музыкай, спяваў з вялікім густам і граў на двух інструментах - на гітары і на вільдаморы (viola d'amour), якую сёння ўжо ніхто не ведае. Хаця сёння і адмаўляюцца ад усялякай меладычнасці ў музыцы, але ўсё ж дзіўна, што гэты меладычны і гучны інструмент аказаўся цалкам забыты і бачыў я яго толькі ў майго бацькі. Неяк ён, калі даўно ўжо закінуў свае таленты, якім у маладосці быў абавязаны шматлікім перамогам, загадаў






*Марыя дэ Неры*

прынесці вільдамору са скарбца, каб я убачыў, як на ёй граць. Мне, праўда, тады было ўсяго 14 гадоў, але калі ён узяў некалькі акордаў а потым зайграў нейкую душэўную песеньку, я расплакаўся як дзіця. Няхай я, але наш стары сусед, які тады гасцяваў у нас, рупліва мне дапамог.

Калі новы апякун пазнаёміўся з выхаванкай, калі яны пачалі размаўляць пра музыку, граць і спяваць разам, закахаліся яны як жыхары неба, і ў гэтым каханні, цалкам задаволеныя, пражылі амаль што паўгода. Трэба прызнаць, што гэтак мой бацька назаўсёды страціў давер Нагурскага, чаму потым ён прыпісваў фатальныя і згубныя для яго фартуны наступствы ў адносінах з гэтай асаблівай жанчынай. Так ён гэта разумеў, хоць і быў добра напоены тагачаснай французскай галантнасцю, якая ставілася да падобных рэчаў, як да жартаўлівых прыгод. Увесь свет ведаў, што яны з Каэтанам ніколі не падабаліся адзін аднаму, і таму выбіць з-пад яго зэдлік было не такім ужо і цяжкім, смяротным грахом.

Хочаш - не хочаш, трэба было вяртацца з Варшавы і парушыць гэты магаметанскі рай! Але яны яшчэ не насыціліся адно адным! Мой бацька быў цалкам адданы панне Неры і ахвотна напісаў Нагурскаму пра поспехі, якія яна дасягнула за такі кароткі час, раіў яму як мага хутчэй прывезці яе ў Літву. Нагурскі, чыё здароўе значна пагоршылася за апошнія некалькі месяцаў (ён пакутаваў ад хранічнай чорнай жаўтухі), вырашыў што здароўе і настрой вернуцца да яго, як толькі прыедзе каханая. Прывёз яе, і новы Пігмаліён, ап'янелы ад цела, манер і добрага тону сваёй Галатэі, адразу пачаў паўсюдна публічна прадстаўляць яе як сваю жонку, з якой ён таемна ажаніўся ў Італіі, чым прымусіў жудасна пакутаваць астатніх членаў сям'і, якія чакалі яго смерці! Яны пачалі сачыць за італьянкай і распаўсюджваць весткі, што яна яму не жонка. Віленскія дамы абурыліся такай зухаватасцю і бессаромнасцю: "Як ён смеў прывесці сваю наложніцу ў паважаныя дамы!".

Неры ведала пра гэта і, відочна, далей ёй самой проста не хапіла такту. Ужо вышэй меры насыціўшы хворага псеўда-мужа, працягвала яна старую інтрыгу з маім бацькам, пры гэтым удавала лютую прывязанасць да Нагурскага, пастаянна яе дэманстравала, пастаянна сядзела ў яго на каленях, прыціскалася да яго, цалавала і такім чынам цалкам вычарпала і знудзіла хворага, які адчуваў сваё знясіленне. І калі, з аднаго боку, пачала распаўсюджвацца чутка, што яна не жонка, а з другога яна адчула непрыхільнасць Нагурскага да сябе, Нагурскага, які яшчэ не даў ёй аніякіх гарантый. Пасля некалькіх гадзін кахання з маім бацькам, яна ўпала да яго ног і маліла каб ён выратаваў яе з гэтай багны і схіліў Нагурскага да шлюбу з ёй. Але Нагурскі, хоць і не меў ніякіх падазрэнняў, не дазволіў нават пачаць размову пра шлюб і толькі пагадзіўся пакрыць выдаткі на вяртанне панны Неры ў Венецыю.

Тады мой бацька прыйшоў да добрага каплана, кс.-біскупа Пільхоўскага і сілай красамоўства растлумачыў гэтаму лагоднаму, як ягнё залатавусту, усімі шанаванаму, пабожнаму чалавеку, які нічога не падазраваў, гэтую гісторыю. І тады, калі пакуты Нагурскага ад хваробы сталі большымі, чым звычайна, біскуп наведаў яго і выкрыў яго грэх супраць Бога і людзей, той пакаяўся і пагадзіўся на шлюб. Так праз ласку майго бацькі, дачка карчмара Неры стала пані Нагурскай.

Між іншым, каханне мінулага стагоддзя звычайна мела даволі вузкія межы, бо грунтавалася толькі на сексуальных пачуццях. Таму яно не магло працягвацца доўга, але праз гэта забяспечвалася вялікая гнуткасць і ўзаемаразуменне. Мой бацька і пані Нагурская ўсё ж надакучылі адзін аднаму, адкрыта ў гэтым прызналіся і гэтак захавалі ўзаемнае сяброўства і свабоду без рэўнасці ў адносінах з іншымі. Бацьку гэта задавальняла, бо ён у той час меў ажно тры інтрыгі, калі не лічыць сувязі з Нагурскай. Адна платанічная, бо датычыла жанчыны рэдкай цноты, але дзве іншыя моцна высмоктвалі яго сілы і грошы. Загнаны, як паштовы конь, ён быў рады пазбавіцца ад цяжару адносін з Нагурскай.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *Мапучэ, іракезы, батакуды, наваха: Дамейка, Дрозд, Сёміpадскі, Шлапак*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-52 (53-104) (2023); 1-52 (105-156) (2024); № 1-13 (157-169) за 2025 г.)*

**ДАМЕЙКА Ігнат** (4) - у апісанні нораваў і ўзроўню адукацыі ў Чылі "да Дамейкі" Юзаф Семірадскі, мабыць, крыху нагадае Івана Франко, толькі батакуды (украінцы або русіны) замененыя на араўканаў (чылійцаў, пераважна метысаў).

Першы з двух абяцаных намі абзацаў з артыкула Семірадскага 1889 г. пра Дамейку, у якім выразна паказваецца "дзікасць" Чылі з араўканскімі каранямі:

*"Ніжэйшае школьніцтва ў Чылі стаяла ніжэй усякай крытыкі. Сярэднія школы, кіраваныя манахамі розных адценняў, якія мелі толькі адну рысу - яны былі такія ж невуцкія, як і маса напаўдзікага насельніцтва, з якога яны выйшлі, убівалі ў дзяцей рыторыку і паэтыку, адзіным эфектам якіх была вельмі ранняя палітыкаманія [politykomania] сярод школьнай моладзі, прылада [?] рэвалюцыі [przy lada rewolucyi] - і ніколі не прыходзілася доўга чакаць pronunciamenta ў іспанскай Амерыцы. Дзеці рваліся да шаблі і, вядома, ніколі не вярталіся ў школу. З гэтых людзей вырасла напаўінтэлігенцыя, якая так моцна паважала навуку, што зусім не кранулася яе, але вельмі хутка падступалася да палітыкі і ўрада, да лёгкіх "pronunciamentow", што давала зручную падставу для самага звычайнага рабавання палітычных апанентаў, тым больш што дзікі і неўтаймаваны характар асноўнай масы свавольнага і невуцкага насельніцтва, пра якое нехта зларадна сказаў, што ў самым элегантным чылійцы жыла прынамсі палова самага дзікага араўкана (*Цікавы дэвіз на чылійскім гербе, якім з'яўляецца кондар з надпісам: por la razon o por la fuerza (па перакананні ці гвалтам!)), быў вельмі прыдатны для такога жыцця. Кніга - гэта раскоша, якая хаваецца ў гардэробе разам з рознымі цікавосткамі, каб паказаць гасцям; навука, калі гэта не філасофія, гісторыя ці паэзія, - нешта такое ж недасяжнае, як астралогія ці кітайская граматыка. Вось такія паняцці знайшоў Дамейка ў асяроддзі мясцовай інтэлігенцыі".*

Casa-Memorial "Salvador Allende"
Calle I3 № 504 entre D y E
Ciudad de La Habana
Cuba

July 21, 1995

Dear Compañeros:

I apologize for writing in English. Unfortunately, command of Spanish among our members leaves much to be desired.
Nevertheless, we continue to look for pen pals in all parts of Latin America. We would certainly like to know more about your popular movements and about current political events. We are especially interested in the following issues: Cuban foreign policy; Cuba and Chiapas; North and South American Indians in Cuba; Pan-Indianism in Latin America; the Mapuche in Chilean politics.
We ask you to help us to establish correspondence with any of Cuban organizations, any of your citizens interested in our friendship and cooperation.
We still have no one correspondent in your country! Other people at the local Center for Latin American Studies have no close contacts as well.
Best wishes and we look forward to hearing from you soon.
Sincerely,

Ales Sinakou
Executive Secretary
Belarusian - American Indian Society
PO Box II4
Gomel 246049
Belarus

***Letter to Casa-Memorial Salvador Allende (Havana, Cuba) 1995-07-21. Mapuches among our principal interests***

**Літ.:**

*1169 Грицкевич В. П. Геолог, минералог и этнограф Игнатий Домейко // Известия Всесоюзного географического общества. 1981. Т. 113. Вып. 5. С. 447-451.*

*9592 Михеева И. Б. "Гранде Эдукадор" Игнатий Домейко: белорусский вклад в латиноамериканскую культуру // Сотрудничество и интеграция в многополярном мире: опыт Беларуси и государств Латинской Америки: материалы международной научно-практической конференции, Респ. Беларусь, г. Минск, 12 мая 2015 г. Мн., 2015. С. 189-194.*

*950 Белорусский "экватор": путевая книга-беседа в шести тетрадях о путешествии по земле белорусской в полосе, примыкающей к автомобильной магистрали Москва-Брест от 456-го км до границы нашей страны. Изд. 2-е, доп. и перераб. Мн., 1988. (Домейко, "Араукания и ее жители", арауканские индейцы, (не) дикари.)*

*3768 Domeyko I. [Fragmenty Araukanii] Antykwariat, pod red. J. Szelaga // Kontynenty. 1965. № 2. S. 40.*

*3769 Domeyko I. Mis viajes. T. 1-2. Santiago, 1978.*

*3804 Paradowska M. Kraj niezaleznych Araukanow - Chile // Paradowska M. Podroznicy i emigranci: szkice z dziejow polskiego wychodztwa w Ameryce Poludniowej. Warszawa, 1984. S. 144-151.*

**ДРОЗД Наталля** (Nataliya, Natallya - аанаўскія варыянты 1992 г., Natalia, Natallia Drozd) - у паказальніку прамоў на 47-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН (Index to Proceedings of the General Assembly. Forty-seventh session - 1992 / 1993. Part II - Index to Speeches. New York, 1993. https://library.un.org/sites/library.un.org/files/itp/a47-partii_1.pdf) прозвішчы прадстаўнікоў Беларусі прад-







39

начальніку ўпраўлення гуманітарнага
супрацоўніцтва і правоў чалавека
Дрозд Н.І.

***Рэгістрацыя адпраўлення. Наталлі Дрозд 1995-12-15. To Natallia Drozd, Director, Humanitarian Cooperation and Human Rights Department, Ministry of Foreign Affairs, Belarus***

стаўленыя ў наступным выглядзе: Belyaev P., Buravkin G. N., Drozd N., Fisenko V. N., Kravchanka P. K., Kupchina E., Martynov S., Mojoukhov A. A., Vasilyev A. V., Yegorov G. A., Zvonko S. N. (Бураўкін Г., Бяляеў П., Васільеў А., Званко С., Краўчанка П., Купчына А., Мажухоў А., Мартынаў С., Фісенка В., Ягораў Г.).

Дрозд, у прыватнасці, выступіла па тэме расавай дыскрымінацыі, што адлюстравана ў дакуменце "A/C. 3/47/SR.5" (Summary record of the 5th meeting: 3rd Committee, held on Thursday, 8 October 1992, New York, General Assembly, 47th session). Гэтая кароткая справаздача пра 5-е пасяджэнне ("Пункт 91 парадку дня: ліквідацыя расізму і расавай дыскрымінацыі", а таксама "Пункт 92 парадку дня: права народаў на самавызначэнне (працяг)") заканчваецца адным з абзацаў, якія адносіцца да прамовы прадстаўніка Беларусі:

*"43. Некаторыя арганізацыі сістэмы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, а менавіта ЮНЕСКА, маглі б адыграць важную ролю ў стварэнні глабальнай праграмы адукацыі і інфармацыі для садзейнічання ажыццяўленню Праграмы дзеянняў. Яе дэлегацыя падтрымлівае прапанову, якая змяшчаецца ў дакладзе Генеральнага сакратара (A/47/432), аб правядзенні рэгіянальных семінараў і практыкумаў, у прыватнасці па праблеме ролі сродкаў масавай інфармацыі ў*



Lubicon Lake Indian Nation
Little Buffalo Lake, AB
403-629-3945
FAX: 403-629-3939

Mailing address:
3536 - 106 Street
Edmonton, AB T6J 1A4
403-436-5652
FAX: 403-437-0719

December 14, 1993

Mr. Ales Simakou
Executive Secretary
Byelorussian-American Indian Society
P.O. Box 114
Gomel 246049 BELARUS

Dear Mr. Simakou:

Thank you for your letter of October 27th which only just arrived. Thank you also for the packet of enclosed materials and your much appreciated work on behalf of the Lubicons.

There are many Lubicon bibliographies done by different people for different purposes. The information which we've produced over the years is by far the most comprehensive and detailed, although there is one book on the Lubicons (enclosed), chapters on the Lubicons in a number of other books and countless academic papers of varying quality (all based primarily on Lubicon information).

The information package we sent you was a summary. It contained a list of similarly-sized information packages providing more detailed information on various aspects of the Lubicon struggle. I suggest that you review this list and let us know if you would like additional information on one or another aspect of the Lubicon struggle.

We work with a variety of organizations across the country and around the world but not with the Intertribal Forestry Association of British Columbia, which is one of a number of Indian organizations put together with governmental assistance to try and undercut the environmental movement and the struggle for recognition of Indian land rights. Generally the view here is that these Indian organizations sell-out the rights of their Indian brothers and sisters for limited economic benefits from government and big corporations. I'm sure you have similar problems in your country.

The Mimir Corporation is my management consulting company. Mimir is a character in ancient Norse mythology. He was an advisor to the gods. Among other things he was the guardian of the fountain

***Letter from Fredric M. Lennarson, Lubicon Lake Indian Nation (Edmonton, Alberta) 1993-12-14 p. 1 of 2 received 1994-01-05***



2

of wisdom. It seemed like a good name for a consulting company.

Thank you again for your interest and continuing concern over the plight of the Lubicons.

Sincerely,

F.M. Lennarson

cc: Bernard Ominayak

***Letter from Fredric M. Lennarson, Lubicon Lake Indian Nation (Edmonton, Alberta) 1993-12-14 p. 2 of 2. Фред Леннарсон, советник любиконов***


М.И.ТАРАСЕВИЧ

НАЦИОНАЛЬНО-КУЛЬТУРНЫЙ СОСТАВ КОРЕННОГО НАРОДА БЕЛОРУССИИ

В.Е.АЛЕЙНИКОВ

ИСТОРИЧЕСКИЕ РЕГИОНЫ РУСИ

Новая концепция

Минск
ИПП Министерства экономики РБ
1994

**_Autographed book gift of Uladzimir Aleinikov (Тарасевич, Алейников 1994) 1995-01-11_**

*барацьбе з расісцкімі ідэямі. Прапанаваная тэматыка асноўных даследаванняў і распрацовак у гэтай галіне таксама ўяўляецца прымальнай. У заключэнне аратар падкрэслівае неабходнасць наладжвання міжнароднага супрацоўніцтва ў вырашэнні эканамічных, сацыяльных, культурных і гуманітарных праблем і заахвочванні павагі правоў чалавека і асноўных свабод для ўсіх без адрознення расы, полу, мовы і рэлігіі"* (https://digitallibrary.un.org/record/185091?v=pdf).

На гэтым пасяджэнні выступіў і Хорхе Ласара з Перу (Jorge Lazaro, Counsellor, Permanent Mission of Peru to the United. Nations).

На 47-й сесіі па правах чалавека ад Беларусі выступаў В. Фісенка, але пазней у дакументах ААН канкрэтна па гэтай тэме сустракаюцца і прамовы Дрозд, напрыклад Drozd, Natallya (Belarus). Human rights questions, including alternative approaches for improving the effective enjoyment of human rights and fundamental freedom. A/C.3/48/SR.43 - 1993-11-26; Drozd, Nataliya (Belarus). Human rights questions, including alternative approaches for improving the effective enjoyment of human rights and fundamental freedoms. A/C.3/52/SR.40 - 1997-11-18.

Яўная спроба беларусізаваць прозвішчаназіралася на сесіі 1992-1993 гг. толькі ў выпадку з міністрам замежных спраў П. Краўчанкам - але частковая, "няскончаная" (Kravchanka). У той жа час прозвішча Дрозд у жанчын універсальнае - пішацца на рускай і беларускай мовах і перадаецца лацініцай аднолькава.

Наталля Дрозд ёсць і ў спісе нашых адрасатаў - як начальнік (з 1994 г.) Упраўлення (з пэўнага моманту - Дэпартамент) гуманітарнага супрацоўніцтва і правоў чалавека МЗС: 15.12.1995 г. мы адправілі ёй шэраг матэрыялаў, у т.л. інфармацыю ад нашай ГПНЛК- Групы падтрымкі народа любікон кры (Lubicon Cree Nation Support Group), копію ліста ад 10.12.1995 г. пастаяннаму прадстаўніку ААН у Беларусі Паўлу Кралу (Pavel Kral).

Ураджэнка Гарадзеншчыны скончыла МДПІЗМ, авалодала англійскай, французскай, італьянскай, сербска-харвацкай, македонскай мовамі. З 1994 г. была членам калегіі МЗС. Праходзіла навучанне ў Цэнтры палітычных і дыпламатычных даследаванняў пры МЗС Вялікабрытаніі. Была намеснікам дэкана па працы з замежнымі студэнтамі БДУ, прафесарам Цэнтральна-Мічыганскага ўніверсітэта (1991, Central Michigan University, Mount Pleasant; мае праграму Native American and Indigenous Studies і Office of Indigenous Affairs, цесныя сувязі з чыпева сагіна: па перапісе 2020 г. насельніцтва Маўнт-Плезанта складала 21688, а частка горада (з насельніцтвам 8741 чалавек) размешчаная ў рэзервацыі Ізабэла (Isabella Indian Reservation) Племяннога народа сагіна чыпева (Saginaw Chippewa Tribal Nation), Soaring Eagle Casino & Resort у суседнім Чыпева (Chippewa Township) таксама знаходзіцца ў межах рэзервацыі) у рамках праграмы абмену з БДУ, дзе яна звязаная з кафедрай дыпламатычнай і консульскай службы ФМА.

У 1995 г. яна "Member, delegation of Belarus to the United Nations Commission on Human Rights", а ў 1992-1994 гг. "Member, delegation of Belarus to the United Nations General Assembly".

Oren Lyons, Chief and Faithkeeper, Haudenosaunee (People of the Long House, Iroquois Confederacy), UN, opening "The Year of the Indigenous Peoples" (1993), 10.12.1992 (заканчэнне прамовы; у канцы тэксту ў нашай крыніцы ўказана ў дужках: Орэн Лаянс атрымаў авацыі стоячы і ўхвальныя крыкі індзейскіх [?] назіральнікаў [Oren Lyons received a standing ovation and shouts of approval from Indian spectators].)

**ПРАМОВА ПРАВАДЫРА ОРЭНА ЛАЯНСА Ў ААН 10 СНЕЖНЯ 1992 г. (4)**

Усё гэта прыйшло з-за мора. Катастрофы, якія мы пацярпелі ад рук нашых братоў з-за мора, былі няспынымі і недаравальнымі [unremitting and inexcusable]. Гэта душыла [crushed] нашых людзей і нашы Народы [Nations] на працягу стагоддзяў. Ты прынёс нам хваробу і смерць і ідэю хрысціянскага панавання над язычнікамі, паганцамі, дзікунамі [heathens, pagans, savages]. Нашы землі былі абвешчаныя "вакантнымі" папскімі буламі, якія стварылі





только другие народы, которые через него узнали о ней, чего, однако, нет. Никто в Западной Европе(за исключением разве что историков)в названии "Белоруссия" не употребляет слово "белая" на своем языке. Редчайшими являются случаи, чтобы так же, как пришельцы, начинало называть свою страну и коренное население, у которого всегда есть свое, традиционное название для нее. Исключениями в этом ряду являются коренные народы Америки, Австралии и другие, перешедшие на язык завоевателей. У нас не тот случай. Трудно не согласиться лишь с тем, что именно к XIX в. утвердилось современное название "Белоруссия" (примерно в современных границах).

"Вспоминая роль краснаго, синяго и белаго цветов в истории русскаго народа, мы видим, что первый - красный принадлежал преимущественно Великороссам, второй - синий - Малороссам и последний - белый - Белоруссам...А если вспомнить,"откуда изыде русская земля", то увидим, что первый центр ея был **Новгород**, т.е. **Великороссия**, второй - **Киев-Малороссия**, и третий - **Смоленск-Белоруссия**, и на этих трех точках опоры и создалась русская земля, русское, т.е. славяно-русское государство"[1]. Что интересно, еще в начале нашего века г.Смоленск считался центром Белоруссии! Но откуда же все-таки пошло имя "Белая Русь"?

"Но как на восток имя руссов, а на западе ляхов, или поляков, распространилось, то не токмо оное генеральное сарматское, но и удельные, или партекулярные, угасли. Например, Руссиа, разделяяся перво на 5 частей, яко Великая, Малая, Белая, Червонная, или Червенская, и Черная, весьма широко распространялась, и как разные уделы были, то тогда знали, что Великая именовалась Новгородская, Малая - Киевская, Белая - Суздальская и Ростовская, где Москва и пр.построены, Червенская - вся та часть, что ныне Червонная Русь, часть Волыни и некоторые воеводства в Польше Малой, Черная - Большая часть Литвы за Припятью к Неману и Бугу, а потом и Черниговское княжение. И хотя тогда

1 Трутовский В.К. К вопросу о русских национальных цветах и о типе государственного знамени России. М., 1911. С. 12-13.

41

***Беларускі іракезіст Уладзімір Алейнікаў у сваёй "першай [і апошняй?] навуковай публікацыі" разважаў пра белы колер у назве краіны***

закон, які апраўдвае рабаванне нашай зямлі. Нас сістэматычна пазбаўлялі нашых рэсурсаў, рэлігіі і годнасці.

Сапраўды, мы сталі рэсурсамі працы для залатых капальняў і палёў цукровага трыснягу [canefields]. Жыццё для нас было невымоўнае і жорсткае [unspeakable and cruel]. Нашы чорныя і цемнаскурыя браты і сёстры былі прывезеныя сюды з далёкіх краін, каб падзяліць нашы няшчасці, пакуты і смерць [our misery and suffering and death]. Але мы выжылі. Я стаю перад вамі як праява [manifestation] духу нашага народа і нашай волі да выжывання. Воўк, наш Духоўны Брат, стаіць побач з намі, і мы падобныя з пункту гледжання заходняга розуму [Western mind]: тыя, каго ненавідзяць, якімі захапляюцца, і мы ўсё яшчэ загадка для вас, і ўсё яшчэ непераможаныя [hated, admired, and still a mystery to you, and still undefeated].

Такім чынам, якое пасланне [message] я прыношу вам сёння? Гэта наша агульная будучыня? Мне здаецца, што мы жывём у час прароцтваў, час вызначэнняў і рашэнняў. Мы - пакаленне, якое мае адказнасць і магчымасць выбіраць Шлях Жыцця [The Path of Life] для будучыні нашых дзяцей. Або жыццё і шлях, якія супярэчаць Законам Духоўнага Адраджэння [Laws of Regeneration]. Нягледзячы на тое, што мы з табой у розных лодках, ты ў сваёй лодцы, а мы ў нашым каноэ, у нас адна Рака Жыцця [River of Life]. Што спаткае мяне, тое і цябе. І ўніз па цячэнні, унізе па плыні гэтай Ракі Жыцця, нашы дзеці заплацяць за наш эгаізм, за нашу прагнасць і за адсутнасць бачання [lack of vision]. 500 гадоў таму вы прыйшлі на нашы некранутыя землі вялікіх лясоў, хвалістых раўнін, крышталёва чыстых азёр, ручаёў і рэк. І мы пацярпелі пры вашых пошуках Бога, Славы і Золата [your quest for God, Glory, and Gold]. Але, мы выжылі. Ці зможам мы перажыць яшчэ 500 гадоў "устойлівага развіцця"? Я так не думаю. Не ў тых вызначэннях, у якія сёння ўкладваюць "устойлівае". Я так не думаю. Такім чынам, рэальнасць і натуральны закон будуць пераважаць; Закон Насення і Духоўнага Адраджэння [Natural Law will prevail: The Law of the Seed and Regeneration]. Мы ўсё яшчэ можам змяніць наш курс. Яшчэ НЕ позна [NOT too late]. У нас яшчэ ёсць варыянты. Нам патрэбна смеласць, каб змяніць нашы каштоўнасці на аднаўленне нашых сем'яў, жыцця, якое нас акружае. Маючы гэтую магчымасць, мы можам падняць сябе. Мы павінны ўзяцца за рукі з астатнім Стварэннем [Creation] і гаварыць пра здаровы сэнс, адказнасць, братэрства і МІР [Common Sense, Responsibility, Brotherhood, and PEACE]. Мы павінны разумець, што закон *- гэта* зерне [The Law *is* the Seed], і толькі як сапраўдныя партнёры [True Partners] мы можам выжыць.

Ад імя Карэннага Насельніцтва Вялікага Вострава Чарапахі [Indigenous People of the Great Turtle Island] я выказваю свае разуменне і падзяку.

Dah ney' to.

Цяпер я скончыў.

**Літ.:** (Вождь любиконов Бернард Оминаяк в белорусской печати)

*13034 Смит Р. Международная защита прав человека: пер. с англ. Мн., 2013.*

*13035 Шахновская И. В. Правоспособность социальных общностей в конституционном праве // Известия Национальной академии наук Беларуси. Серия гуманитарных наук. 2016. № 2. С. 95-99. ("Защита прав социальных общностей остается "за гранью" исследований. В то же время ст. 6 Гражданского процессуального кодекса Республики Беларусь [4] "включает" в круг субъектов обращения и юридических лиц (к которым и относится определенная часть социальных общностей). Международная судебная практика показывает, что субъектами обращения в суд могут быть и различные меньшинства, группы людей. В качестве примера можно привести дела, рассмотренные Европейским судом по правам человека, а именно: вождь Бернард Оминаяк и племя озера Любикон против Канады, Мауика и др. против Новой Зеландии и др. [5, с. 357]", 5 - спасылка на кн. Р. Сміта 2013 г.)*

**СЕМІРАДСКІ Юзаф** (6) - пішa і пра батакудаў; як вядома, этнонім з'явіўся як назва паэмы ("паэмкі") Івана Франко (з крытыкай "галіцка-рускай" інтэлігенцыі).





***Індзеец суя (Suia), Шынгу. One of the Brazilian Indian postcards received from Ales Barkouski***

Напісаная ў лютым-сакавіку 1880 г., упершыню надрукаваная ў зборніку "З вершин і низин" (2-е, дапоўненая выданне, Львів, 1893), і можна правесці не толькі паралель, але, магчыма, і лінію ўзаемаўплыву паміж Франко і Семірадскім - галоўнымі папулярызатарамі батакудаў у Галіцыі.

*Юзаф Семірадскі*

**АБ ІНДЗЕЙЦАХ ПАЎДНЁВАЙ АМЕРЫКІ (6)**

"Мы знаходзім сляды існавання першабытнай расы па ўсёй Паўднёвай Амерыцы, ад Вогненнай Зямлі і Патагоніі да Калумбіі; плямёны карыбаў [Karibow], тупі [Tupi], кічна [Kiczna (?) - Kiczua (?), Keczua, кічуа, кечуа, ісп. quechua, ад кічва qhichwa?] і інш., што прыбылі пазней, адціснулі гэтых тубыльцаў углыб недаступных лясоў. Сёння яны ўсё яшчэ стаяць на самым нізкім узроўні культуры, які адпавядае каменнаму веку, не ведаючы выкарыстання металаў або паліроўкі каменных прылад.

Адной з антрапалагічных асаблівасцей расы батакудаў [Botokudow] з'яўляецца незвычайная расцяжнасць [rozciagliwosc] жаночых грудзей у замужніх жанчын, якія часам дасягаюць да 33 см у даўжыню і маюць форму мяшкоў. Маладыя дзяўчаты, якія маюць нармальна развітыя грудзі, саромеюцца гэтага і прыкрываюць іх рукамі пры старонніх. Батакуды, як і патагонцы [Patagonczycy], хаваюць памерлых у бязлюдных месцах у ляжачым становішчы, накрываючы іх круглым плоскім насыпам.

Зброя батакудаў складаецца з двухметровых лукаў і стрэлаў такой жа даўжыні, зробленых з тонкага бамбуку, вытанчана размаляваных, з касцяным лязом і вельмі вялікімі рулявымі пёрамі, і дзіды з цвёрдых парод дрэва з зубчастым лязом у форме гарпуна. У ваколіцах еўрапейскіх стаянак сустракаюцца жалезныя наканечнікі коп'яў, зробленыя са скрадзеных у каланістаў кавалкаў бляхі і адточаных на камені.

У культурным плане батакуды і роднасныя ім плямёны саступаюць жыхарам Вогненнай Зямлі. Яны не ведаюць каменных прылад; усе іх прадметы зроблены з дрэва або косці, а брытвы для галення галавы - з вострых бамбукавых аскепкаў. Яны не ведаюць прыгожых кос, так распаўсюджаных у іншых амерыканскіх народаў. Яны таксама не выкарыстоўваюць упрыгожванні з каляровых пёраў, якімі карысталіся суседнія плямёны іншых рас. Важнай этнаграфічнай асаблівасцю батакудаў і патагонцаў з'яўляецца поўная адсутнасць шаманаў (чараўнікоў), якія існуюць ва ўсіх плямёнах карыбскай расы або пазнейшых міграцый".

**Літ.:**

*4548 Саламевіч І. У. Франко Іван // Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 10. Мн., 1974. С. 624-625. ("Батакуды".)*

**ШЛАПАК Уладзімір** (Uladzimir Shlapak) - фотакарэспандэнт і тэхнічны рэдактар - у яго, як і ў піяніста ў салуне, не трэба "страляць" - ён стараецца фатаграфаваць, а быць дакладным з фактамі ў тэкставых каментарыях да здымкаў - ужо наступная па важнасці задача. У яго невялікай справаздачы з кастрычніка 1996 г. павінны былі быць не навахі з рэзервацый Невады, а адзін навах з рэзервацыі ў Арызоне, на здымках жа - варта было ўдакладніць - індзеяністы.

*Міхаіл Іванчанка*

**ІНДЗЕЕЦ НАВАХА Ў МІНСКУ (4)**

Мы паказалі м-ру Язі відэазапіс апошніх паў-ваў пад Санкт-Пецярбургам. Ён, вядома, не чакаў убачыць у Расіі нічога падобнага, бо думаў, што ў людзей, якія запрасілі яго, захапленне не выходзіць за рамкі хобі. Але паў-ваў - гэта ўжо зусім іншая справа. Гэта ўжо іншы лад жыцця, іншы светапогляд, гэта шлях, па якім сёння ідуць індзейцы і які таксама робіць індзейцамі тых, хто па ім ідзе. Прынамсі, я ў гэта веру...

- Калі людзі ідуць на паляванне і знаходзяць жывёлу,



## "Хаў!"

З 14 па 15 кастрычніка ў сядзібе Беларускага Таварыства дружбы з замежнымі краінамі адбыўся першы міжнародны фэст "Indian Spirit" (Індзейскі Дух). Сюды зьехаліся індзеаністы з Расеі, Украіны ды ўсёй Беларусі. Былі і госьці з Амэрыкі -- самі індзейцы. Наваxі з рэзэрвацыяў штату Нэвада распавялі пра свае звычаі, рэлігію, аб сваім паўсядзённым жыцьці. Пасьля адбыўся ўрачысты канцэрт, падчас якога індзейскія пляскі зьмяняліся песьнямі ў стылю кантры групы "Sunrise" з Санкт-Пецярбургу.

**Уладзімер Шлапак.**
***Здымкі аўтара.***



***Суправаджаючы выступленне наваха з Арызоны… На здымках - індзеяністы. Indianist dancers, Minsk. October 1996 Navajo William Yazzie tour. Photos by U. Shlapak***

якая ім патрэбна, яны размаўляюць з ёй і прыносяць яму ахвяру са словамі: "Прабач, маленькі брат за тое, што мы забіваем цябе, ты нам патрэбны". Пасля гэтага яны могуць забіць і іншую жывёлу, бо яны ўжо папросяць прабачэнне сімвалічна ва ўсіх жывёл. Гэтак жа робяць і з раслінамі. Цяпер паслухайце паляўнічую песню з Бізонавага танца... (Гучыць песня.)

- Адна з разнавіднасцей песень - любоўныя песні. Паслухайце любоўную песню племя наваха... (Гучыць песня.)



***Гомельскія фантазіі з бульбай (тое, што еў Уільям Язі ў Мінску восенню 1996 г.), ціпі, люлькай міру, крыжам, мячом і пісталетам***

Як і ўсякі індзеец, м-р Язі вялікі аматар паесці. У адзін з вечароў ён з'еў вялікую талерку дранікаў са смятанай, якія мы выдалі за беларускую нацыянальную ежу, другім разам яго частавалі ўкраінскімі варэнікамі. Увогуле ўзаемапранікненне культур прайшло з вялікім поспехам.

- Круг - гэта вельмі важная для індзейцаў форма. Ён змяшчае ўсе элементы жыцця і прыроды. Наша жыццё ідзе па крузе - нараджэнне, дзяцінства, сталасць і старасць. Чатыры пары года ідуць па крузе - вясна, лета, восень і зіма. Гэтаму прысвечаны танец Круга. Людзі становяцца вакол і танцуюць... (Гучыць песня.)

**Літ.:**

*3268 Шлапак У. "Хаў!" / здымкі [2] аўтара // Наша ніва. 1996. 21 кастр. С. 9.*

*3105 Скорнякова М. Герои Купера "ожили" в Минске / фото В. Шлапака // Знамя юности. 1996. 17 окт.*

***Алесь Сімакоў,***
*даследчык беларуска-індзейскіх сувязей.*
***Ales Simakou*** *(e-mail: baicri@tut.by), researcher of Belarusian-Indian (American Indian, Native American, Amerindian, First Nations) connections.*

***Індзейцы, индейцы, Indianie, Indians, indigenous peoples, indigenas, indios de America y Belarus; Belarusians Meet Indians. Алесь Симаков. Белорусы встречаются с индейцами. [Вып. 143].***

# Дакладная прымета вясны - мастакі выйшлі на вернісаж!

Традыцыя працы вулічных вернісажаў мастакоў прыжылася ў горадзе Лідзе дзякуючы ініцыятыве галерэі "Лідзея" напачатку 2000-х гадоў.

Дакладная прымета вясны - мастакі выйшлі на вернісаж! Усміхаюцца гараджанам, вітаюць адзін аднаго, паказваюць новыя працы. І людзі ўсміхаюцца ў адказ, разглядаюць карціны, цікавяцца. Малайцы, мастакі, упрыгожваюць нашы будні і святы!









Вось нацюрморт у падарунак, вось гарадскія пейзажы і памятныя месцы нашага горада, а вось і карціна для ўпрыгожвання ўласнай хаты... Карціны вельмі мірныя, сонечныя, цёплыя. "Налятай, спяшайся! Купляй жывапіс!"

Вясна, грамадзяне, вясна ў нашым горадзе, урааа!

***ТК "Культура Лідчыны".***

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

*Адрас рэдакцыі:*
231282, г. Ліда, вул. Лётная, 7а.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* sudnik@list.ru, sejlawiczy@gmail.com

Газета падпісана да друку 31.03.2025 г.

Фармат А-4.
Аб'ём 2,5 друкаванага аркуша.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

**Газета размяшчаецца на сайтах: http://nslowa.by/; http://pawet.net/; http://belkiosk.by/**

*Дазваляецца самастойная раздрукоўка на паперу.*